 

# Улады і датэрміновае галасаваньне

25 жніўня 2001 году ў жлобінскай газэце «Металург» (ворган адміністрацыі Беларускага металюргічнага заводу) быў апублікаваны артыкул галоўнага рэдактара гэтага выданьня У.Кухарэнкі. Ён заявіў, што «адным з ключавых момантаў надыходзячай кампаніі стане датэрміновае галасаваньне работнікаў заводу». Кухарэнка даў канкрэтныя інструкцыі па арганізацыі масавага датэрміновага галасаваньня.

З гэтай мэтаю, як гаворыцца ў артыкуле, «кіраўнікі цэхаў павінны папярэдне скласьці графікі, пракантраляваць яўку транспарту, наяўнасьць пашпартаў, аб'яваў аб датэрміновым галасаваньні, прапрацаваць прадвыбарчую сытуацыю з калектывам і прафактывам».

Але Выбарчы кодэкс (арт.53, ч.1) прадугледжвае, што ў датэрміновавм галасаваньні могуць прымаць удзел выбаршчыкі, якія ў дзень выбараў ня маюць магчымасьці «знаходзіцца па месцу свайго жыхарства». Іншымі словамі, толькі тыя грамадзяне, якія 9 верасьня будуць знаходзіцца за межамі населенага пункту, на тэрыторыі якога разьмяшчаецца іхні выбарчы вучастак. Іншых падставаў для тэрміновага галасаваньня выбарчым заканадаўствам не прадугледжана.

Адзначым, што датэрміновае галасаваньне, за час якога ня будзе незалежных назіральнікаў, прадастаўляе ўладам магчымасьць бесперашкодна сфальсыфікаваць ягоныя вынікі.

Па ідэі ЦВК павінен быў выступіць з тлумачэньнем заканадаўства аб парадку датэрміновага галасаваньня і недапушчальнасьці ягонай прымусовай арганізацыі. Падштурхоўваньне, а тым больш прымус выбаршчыкаў да датэрміновага галасаваньня, зьяўляюцца парушэньнем заканадаўства. Парушальнікамі закону будуць і выбаршчык, які знаходзіўся ў дзень выбараў па месцу жыхарства, але прагаласаваў датэрмінова, і, тым больш, службовая асоба, якая сьвядома справакавала выбаршчыка на парушэньне закону.

**Хартыя'97**

# Падарункі для фальсыфікатараў




У рэдакцыю «Беларускага часу» трапіў вельмі цікавы дакумэнт, які, нібыта распрацаваны ў адміністрацыі прэзыдэнта. У «Нарматыўным сьпісе формаў ухваленьня прадстаўнікоў выканаўчых ворганаў улады і іншых катэгорыяў кіруючага складу» вызначана градацыя формаў і метадаў узнагароды чыноўнікаў выканкаму, членаў участковых і тэрытарыяльных выбарчых камісіяў, дырэктараў буйных прамысловых прадпрыемстваў.

Прадугледжаваецца аплата «працы» па трох умоўных адзінках. Да першай адносяцца старшыні выканкамаў і выбарчых камісіяў, дырэктарат, пад куратарствам якіх вынікі галасаваньня складуць ня менш за 90% у падтрымку зараз дзейнага прэзыдэнта. У гэтым выпадку прадугледжваецца ўхваленьне ў выглядзе ільготных банкаўскіх субсыдыяў для будаўніцтва індывідуальнага жыльля, набытак па рэшткавым кошце легкавых аўтамабіляў, якія канфіскоўваюцца і рэквізуюцца ў грамадзянаў па рашэньнях суда.

Там, дзе колькасьць электарату Лукашэнкі будзе вагацца ў межах ад 70 да 80%, і «падарункі» больш сьціплыя – павышэньне па пасадзе, уручэньне імпартных тэлевізараў і бытавой тэхнікі. Прадстаўнікі трэцяй катэгорыі, якім удасца дасягнуць планкі галасоў электарату Лукашэнкі ў 60%, атрымаюць магчымасьць бясплатна адпачыць ва ўрадавым санаторыі на возеры Нарач ці турыстычных комплексах Упраўленьня справамі прэзыдэнта, а таксама будуць узнагароджаныя грашовымі прэміямі ў памеры аднаго акладу.

Не пазайздросьціш тым чыноўнікам, хто ня справіцца з пастаўленаю задачаю-«мінімум» – 50% «за» Аляксандра Лукашэнку. Мяркуецца правесьці зь імі разьбіральніцтва.

**Хартыя'97**

# «Вертыкальныя» агіткі

*Кіраўніцтва Маскоўскага раённага выканкама сталіцы вынайшла свой спосаб, як збіраць на пралукашэнкаўскія агітмерапрыемствы неахвотны да гэтага люд.*

У прыватнасці, 29 жніўня жыхароў мінскага мікрараёна Малінаўка-4 запрасілі, паводле абвестак на слупах і прыпынках, на сустрэчу з інфармацыйна-аналітычнай групай на чале з кіраўніком адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска Аляксандрам Чыкілёвым.

У школе №206 сабралася ўсяго чалавек 70, прычым траціна з іх настаўнікі гэтай самай школы. Але перад тым, як людзі змаглі задаць набалелыя пытанні па праблемах раёна (прыкладам, чаму мала аб'ектаў сацкультбыту), іх нечакана змусілі выслухаць перадвыбарны інструктаж. Спачатку хвілінаў сорак пяць прамаўляў колішні першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў, даверная асоба Аляксандра Лукашэнкі. Сакалоў гаварыў пра тое, як блага жылося да прыходу да ўлады Лукашэнкі: «у кватэрах 10-12 градусаў было, людзі ў паліто сядзелі». Самому былому галоўнаму камуністу Беларусі нібыта таксама давялося ў паліто ў кватэры сядзець і нават прадаць бібліятэку. За Лукашэнкам, паводле Сакалова, настаў ледзьве не эканамічны рай. На сёлетнім так званым Дні Рэспублікі Яфрэм Сакалоў угледзеў, як замежныя дыпламаты са скуры вылузваліся, шукаючы файныя ракурсы, каб зняць на парадзе камерамі не баявую тэхніку, а беларускія трактары і лядоўні. На тэме *NATO* Сакалова, як той казаў, зусім ужо панесла. Ягоныя згадкі пра здзекі гітлераўцаў падчас Другой сусветнай вайны завяршаюцца абсалютна няўцямна: «і яны кажуць, што яны ўжо іншыя? Тады як яны дапусцілі вайну «Бура ў пустыні» і ў ні ў чым не вінаватай Югаславіі?»

Высноўа адна – трэба галасаваць за Лукашэнку і яшчэ сваякоў і знаёмых на тое падбухторыць. Каб не змерзлі. Сакалоў сядае пад рэдкія апладысменты двух дзесяткаў далоняў. Агітацыйную эстафету пераймае старшыня Маскоўскага раённага выканкама сталіцы А.Чыкілёў: маўляў, на прэзідэнта трэба абіраць Лукашэнку, прычым «асабліва жыхарам Малінаўкі!» (смех у зале). «І ў першым туры», – устаўляе адказны Сакалоў. Чыкілёў згадвае, як Лукашэнка асабіста запускаў першы тралейбусны маршрут у гэтым сталічным мікраераёне. А то тралейбусы, ну, аніяк бы не ездзілі! Тады Чыкілёў разам з тутэйшым насельніцтвам «выпрасіў» у яго грошай на грамадскую лазню. Днямі Лукашэнку хочуць запрасіць на адкрыццё гэтай лазні. Так што не выключана, што на БТ пакажуць, як ён будзе першым, хто ў ёй папарыцца. Трэцяй «за цяперашнюю ўладу» навязліва пахадайнічала дырэктарка школы.

Які выбар будзе адбывацца 9 верасня за фіранкамі кабінак для галасавання?

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Адкрыты ліст

Генэрал-маёр Валеры Паўлаў, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, былы начальнік упраўленьня грамадзкай бясьпекі, абароны й барацьбы са злачыннасьцю Савету міністраў Рэспублікі Беларусь у сваім адкрытым лісьце да Аляксандра Лукашэнкі заклікаў беларускага лідэра зьняць сваю кандыдатуру і сысьці з прадвыбарнай дыстанцыі. Чытайце тэкст адкрытага ліста цалкам.

«Зьвяртацца да вас з адкрытым лістом мне дае права наш сумесны досьвед працы ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, воргане ўлады, які вызначыў асноватворныя рысы ў разьвіцьці нашай краіны: аб'явіў пра яе суверэнітэт, прыняў Канстытуцыю, даў вам права і магчымасьць выбірацца на пост прэзыдэнта і стаць ім. Тады былі сумленныя выбары, і вы выйгралі. Я працаваў у камандзе Вячаслава Кебіча і сышоў разам зь ім. На працу да вас ня толькі не прасіўся, але і не хацеў, каб маё імя калі-небудзь зьвязвалі з вашым. Калісьці я, як і многія вядомыя ў Беларусі людзі, даў сабе слова, што ніколі ні пры якіх абставінах не буду прыніжаць сябе кантактамі з вамі. Аднак абставіны вымушаюць мяне звярнуцца да завочнага кантакту.

Вы вярнулі краіну нават не на сем гадоў назад, а на дзесяцігодзьдзі. У 1994 годзе, калі вы балятаваліся на пост прэзыдэнта, вы маглі казаць тое, што лічыце патрэбным, людзі маглі галасаваць так, як лічаць патрэбным, Беларусь бы паважалі як краіну, а беларусаў як народ. Сёньня Беларусь – краіна-ізгой, вы як прэзыдэнт – герой показак, а беларусы – нацыя, якую ва ўсім сьвеце шкадуюць. Але вы па-ранейшаму раздаяце абацянкі, і сваім асноўным прадвыбарным лёзунгам выбралі зьдзеклівае «разам з народам». Вы баіцёся адкрытых выбараў. Вы баіцёся адкрытай дыскусыі са сваімі апанентамі. Вы баіцёся людзей. Вось чаму закрываюцца незалежныя газэты, арыштоўваецца аргтэхніка, застрашаюцца, а зараз ужо і зьбіваюцца вядомыя ўсёй краіне людзі. І ўсё гэта вы называеце сумленнымі выбарамі?! Вы падзялілі маю Радзіму на сваіх і чужых, прымусілі маладых, здаровых людзей шукаць заробак па ўсім сьвеце. Паглядзіце на дарогі ад Менску і да Масквы – наш народ стаіць і прадае апошняе. Усе гарады і мястэчкі ператварыліся ў суцэльную барахолку. Так зь якім вы народам? З тымі, каго вы спаілі і падманулі? З парай сваіх асоба набліжаных асобаў? І вы жадаеце, каб гэтак працягвалася яшчэ пяць гадоў?

Пабойцеся і людзей, і Бога. Калі вы сёньня ня здыміце сваю кандыдатуру, то вам гэта не даруюць ні гісторыя, ні людзі (нават калі яны сёньня гатовыя галасаваць за вас), ні вашыя ўнукі. Адзіна добрае, што вы можаце зрабіць для Беларусі і беларусаў, — зьняць сваю кандыдатуру, папрасіць выбачэньня й сысьці.

**Генэрал-маёр Паўлаў**».

## Патрыёты Лукашэнкі абнахабіліся

Нядаўна члены маладзёвай пралукашэнкаўскай арганізацыі БПСМ у рамках праводзімай імі акцыі «БПСМ. Я за бацьку» ўзялі на сябе абавязацельствы ачысьціць горад ад сымболікі незарэгістраванай арганізацыі «ЗУБР». Адначасова яны зрываюць інфармацыйныя плякаты кандыдата ў прэзыдэнты Уладзімера Ганчарыка.

Сьведкам такога інцыдэнту стаў адзін з жыхароў Менску – Мікалай В.У раёне станцыі мэтро «Пушкінская» ён назіраў, як група дзяўчат 14-20 гадоў зрывала плякаты Ганчарыка са спецыяльна адведзеных для агітацыі стэндаў. Замест іх ляпіліся налепкі «БПСМ. Я за бацьку». На заўвагі мінакоў «патрыёткі» адказвалі груба. Непадалёк «працаваў» хлопец, які агітаваў за Лукашэнку і раздаваў дарагія нататнікі з партрэтам Лукашэнкі.

Мікалай з іншымі грамадзянамі зьвярнуліся да міліцыянта з патрабаваньнем затрымаць членаў БПСМ. Хлопца і двух бэпээсэмавак даставілі ў Фрунзенскі РАУС, дзве дзяўчыны зьбеглі.

У РАУСе Мікалай і Юры Г., які выступіў у якасьці другога сьведкі, напісалі заявы і далі тлумачэньні. Тлумачэньні далі і затрыманыя. Але назваць іхнія прозьвішчы ў міліцыі адмовіліся. Праз гадзіну Юры бачыў гэтых членаў БПСМ сярод удзельнікаў пікету ў падтрымку Лукашэнкі. Ніякіх мераў супраць іх міліцыя не прадпрыняла.

**Хартыя'97**

**ЗУБР**

## ЗУБР нагадвае аб зніклых людзях у Ваўкавыску і Дзятлаве

Адразу ў двух гарадах: Ваўкавыску і Дзятлаве у нядзелю, 26 жніўня, адбыліся акцыі руху супраціву ЗУБР, якія мелі мэтай нагадаць аб зніклых людзях.

У Ваўкавыску на цэнтральным рынку сябры руху трымалі партрэты вядомых зніклых людзей. Акцыя працягвалася каля гадзіны.

У Дзятлаве сябры руху ЗУБР у цэнтры горада побач з райвыканкамам на працягу гадзіны трымалі партрэты вядомых зніклых людзей.

Дзякуючы актыўнасці ЗУБРа ў гэтых гарадах амаль не засталося людзей, якія не ведаюць аб зніклых людзях.

## Затрыманні не спыняюць зубраў

Сябры руху супраціву ЗУБР правялі раздачу газет НАША СВАБОДА і «Зубр». 25 жніўня ў Бабруйску аб 11 гадзіне яны пачалі рухацца групамі па 10-15 чалавек па цэнтральных вуліцах горада, раздаючы газеты. У 11.30 яны выйшлі на плошчу Перамогі, дзе працягнулі раздаваць газеты.

Падчас акцыі супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманыя Віталь Краснеўскі, Эдуард Грынявіцкі і непаўнагадовы Аляксандр Фядоцьеў. Увесь час знаходжання хлопцаў у пастарунку іх чакалі сябры.

26 жніўня ў Бабруйску зубры ў 12 гадзінаў утварылі жывы ланцуг. Некалькі дзесяткаў актывістаў руху супраціву трымалі ў руках партрэты зніклых у нашай краіне вядомых палітыкаў і журналістаў.

На працягу акцыі раздаваліся незалежныя газеты. Акцыя прайшла без эксцэсаў.

## STOP LUKA!

Под таким названием прошла акция ЗУБРа на центральной площади Борисова. Восемь молодых людей стали лицом к горисполкому, держа в руках по одной букве на листах бумаги. Прохожие могли прочитать известный лозунг «STOP LUKA!». Несмотря на то, что акция зубров, в очередной раз, вызвала поддержку горожан, у сотрудника милиции, дежурившего возле исполкома, она вызвала раздражение. Не представившись, ругаясь нецензурными словами на молодых людей, сотрудник попросту начал вырывать листы из рук. Поняв, что зубры уходить не собираются, милиционер вызвал по рации подкрепление. Прибывшие на место сотрудники задержали одного человека, однако остальные зубры решили не оставлять своего товарища в беде, поэтому поехали с ним вместе.

В борисовском ГОВД с шестерых несовершеннолетних участников акции взяли объяснительные, а на 18-летнего Виталия П. был составлен протокол по ст.167 ч.1 КоАП (несанкционированное пикетирование). Майор, который также не представился, забрал у парня паспорт как гарантию того, что тот завтра явится в ГОВД, откуда Виталия отконвоируют на суд.

Определить это можно как правовой беспредел со стороны отдельных сотрудников правоохранительных органов. Видимо, ничего более деятельности ЗУБРа они противопоставить не могут.

## ЗУБР працягвае вандраваць па вёсках

З 24 па 26 жніўня мясцовыя «зубры» ладзілі вандроўку па Пухавіцкім раёне. Жыхарам навакольных вёсак былі раздадзеныя налепкі «Час прыбіраць» ды каля тысячы асобнікаў спецвыпуску НАШАЙ СВАБОДЫ.

Увечары 26 жніўня міліцыянты затрымалі двух непаўнагадовых «зубраў», якія вяраліся з вандроўкі. Падставай для затрымання стаў бел-чырвона-белы сцяг, які хлопцы неслі на спіне. Праз некаторы час міліцыянты адпусцілі юнакоў, загадаўшы прыйсці на наступны дзень у мясцовы ГАУС. Але хлопцы адмовіліся, бо не атрымалі адпаведных позваў.

## Пустая коробка – повод для задержания

Информационный дождь в буквальном смысле слова пролился на головы гомельчан 27 августа. Это произошло на рынке в районе Старого Аэродрома, когда с соседнего 12-этажного дома кто-то скинул сотни листовок с приглашением прийти на акцию-протест против исчезновения известных людей. Данный способ информирования населения оказался достаточно эффективным, поскольку все листовки были тотчас же подняты с земли и прочитаны предпринимателями и посетителями рынка. Единственными, у кого подобные действия вызвали непонимание, были сотрудники милиции.

К троим молодым людям, мирно сидевшим на лавочке в майках с логотипом движения ЗУБР неподалеку от рынка, с перекошенным лицом и рацией в руках подбежал, как выяснилось позднее, старший лейтенант милиции участковый инспектор Гриньков Дмитрий Иванович. Схватив пустую коробку, стоявшую рядом с парнями, он приказал парням следовать за ним в ОПОП №2 Железнодорожного района г. Гомеля. Уже через несколько минут возле участка собралось несколько десятков зубров.

Там ребята провели в милиции около двух часов, после чего все были отпущены. Никаких протоколов не составлялось. Причину вынужденного двухчасового пребывания в неволе сотрудники милиции также объяснить не смогли. По данному факту ребята намерены написать жалобу в прокуратуру.

**Алесь БЕРКУТ**

# Полная стенограмма допроса свидетеля Александра Метельского

*Продолжение, начало на стр.1*

ВОПРОС: Он участвовал в том случае?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, он перегонял джип.

ВОПРОС: Как его зовут?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Мекиянец.

ВОПРОС: Он русский вообще? Белорус?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, белорус.

ВОПРОС: Зовут как?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Саша, Александр.

ВОПРОС: Он кто, срочник, сверхсрочник?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Он сейчас остался там служить на сверхсрочную.

ВОПРОС: Среди остальных людей на фотоснимке есть кто-то, кто знал? Участвовал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет. Эти все уволились. Я старше призывом был, он младше.

ВОПРОС: Откуда призывался этот Мекиянец?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я не помню. Кажется, из Гродно или Гродненской области.

ВОПРОС: Он сейчас там служит?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Служит.

ВОПРОС: А чем он там занимается?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Водителем в СОБРе, в автороте.

ВОПРОС: На чём он ездит?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я сейчас не знаю, раньше ездил на двух этих машинах. Ауди, иногда на БМВ ездил.

ВОПРОС: А эти номера, что с машины на машину перебрасывались? (на фото).

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, перебрасывались. Ну вот у нас красные номера 02 21 ММ, 02 24 ММ. Номеров было много. Снять, поменять любой можно было. Как-то раз выезжали на трёх машинах. Кто-то пригнал свой Опель белый.

ВОПРОС: А выезжали куда? На задание?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Никто ничего не знал.

ВОПРОС: И сколько таких выездов было на твоей памяти?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Часто выезжали.

ВОПРОС: Как выезжали? Каждый день? Через день? Раз в неделю?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Ну, они приехали потом через три-четыре дня, самое большое — раз в неделю. Потом, когда я выстрелы эти услышал, у нас сделали усиление, выдали автоматы, фонари-драконы, рации. Усиление возле ворот выставили, солдат, чтобы никто не заехал и не выехал.

ВОПРОС: Подожди, к этому дню мы ещё вернёмся. То есть, служба проходила так, кто чем в части занимается, какие задачи выполнял, никто ничего не знал, кроме непосредственных исполнителей?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Кто обычно командовал, вывозил людей?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Сам Павличенко.

ВОПРОС: Ещё командиры были?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Балынин, прапорщик Балынин, краповик такой толстый (кличка Балу).

ВОПРОС: Но всегда руководителем группы был Павличенко?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, он всегда выезжал лично. Протеин привозил сверхсрочникам, чтобы они занимались.

ВОПРОС: Деньги он платил людям?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Не он платил, а ему передавали, насколько я знаю.

ВОПРОС: Для людей деньги? Большие деньги передавали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я знаю, что после того ночного случая этому водителю министр сам вручил пакетик.

ВОПРОС: Министр какой?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Сиваков.

ВОПРОС: Когда вручал, в часть приезжал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет. Они с Павличенко выезжали к нему на БМВ.

ВОПРОС: К Сивакову?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, к Сивакову. Они вышли, он подошел к ним и дал пакетик на моральное успокоение.

ВОПРОС: Когда это было, после того случая?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Откуда тебе это стало известно?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Мне сказал Мекиянец. У него появилась шикарная дубленка, домой ездил, стал хорошо одеваться. Я ему говорю: «Ты что на деньги поднялся?» Он мне и рассказал про это. Я его выручил, когда мы еще служили в спецназе. Он мне и рассказал, мол, приехали, так и так, и нам дали деньги.

ВОПРОС: По сумме он не говорил? А другие деньги получали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, он говорил, что кипу конвертиков дал. И поехал.

ВОПРОС: Это было после того дня?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, типа за моральный ущерб.

ВОПРОС: Это было постоянно или ты только один раз заметил?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Один раз я только заметил, что это он так оделся.

ВОПРОС: Ты сам не причастен. Никто не может сказать, что ты что-то знаешь, причастен, участвовал, был свидетелем вольным, невольным?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет. Я никуда не выезжал.

ВОПРОС: А этот Мекиянец в случае чего не покажет на тебя пальцем, что тебе рассказал.

ВОПРОС: Больше никто тебе не рассказывал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, больше никто не выезжал. Они сами по себе ходили. К солдатам они особо не подходили.

ВОПРОС: На все эти мероприятия выезжали сверхсрочники первой роты?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, краповики все.

ВОПРОС: Кто был командиром роты?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Павлик. Тогда ещё он был майором. Он тогда был командиром первой роты. На открытии этого он был командиром роты. Когда я уже уволился, я узнал, что он стал командиром части.

ВОПРОС: То есть до того, как он пошел на повышение, он был командиром этой роты?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Какая ситуация была у сверхсрочников в роте, какие отношения?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Сверчки между собой очень хорошо дружили.

ВОПРОС: Сколько их было человек?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Все краповики были, один только не краповик, все из первой роты. Человек 6-7. Уволившиеся приходили туда.

ВОПРОС: Сколько человек было в первой роте?

ОТВЕТ: Около ста.

ВОПРОС: Привлекали на выполнение мероприятий только краповиков?

ОТВЕТ: Да, солдаты выезжали, когда на площади заварушка была, выщемить людей, которые ходили с повязками на лице, зажигатели найти и закинуть в машину. И выезжали, если какой бунт, всегда на МВД выезжали к Сивакову на охрану, якобы личная армия Сивакова. Он постоянно приезжал, смотрел наши выступления, обезвреживание, захваты. Показуха так сказать.

ВОПРОС: Вернёмся к этому дню, когда он тебе рассказал? Какой это был день? Какой распорядок?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Все солдаты 1 роты каждый день выходили на пробежку, занимались, стреляли каждый день ходили, на беговую дорожку ходили, постоянно занимались. А у нас был свой распорядок: это машины помыть, заправить, посмотреть. Убрать парк. Никакой работы у водителей не было. Только выгоняли иногда на спортивные мероприятия, пробежаться там. После обеда солдаты всегда спали. Жизнь была райская, вода горячая есть, хочешь – иди мойся. Хочешь, в спортзал сходи, покачайся. Можешь сесть телевизор посмотреть и центр послушать.

ВОПРОС: Муштры не было?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да главное, чтоб всё хорошо было. Павлик заботился о своих солдатах.

ВОПРОС: Вернёмся к этому случаю, который произошел с джипом, людьми — рассказал тебе этот.

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Он мне рассказал об этом джипе. Просто мы тогда дежурим ночью, и слышим — машины подъехали.

ВОПРОС: Когда это было?

МЕТЕЛЬСКИЙ: На следующий день.

ВОПРОС: Число?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Число не помню.

ВОПРОС: Вспомни.

МЕТЕЛЬСКИЙ: Середина сентября 1999 г. Середина. Меня потом уволили, медальку вручили, как бы крест с зубром второй степени. Ну, и у меня сделали так, якобы с машины пропала форма, спецодежда спецназа с обшивками СОБРа и берцы. И за это меня не хотели увольнять, якобы у тебя пропала форма. Там была маска. Полностью вся форма.

ВОПРОС: Она действительно пропала?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Она пропала, машина была закрыта, ключи каждый вечер сдавались дежурному. Когда пришел утром, машина закрыта, а сумки нет (там маска, кепка), это должно лежать в машине. Чуть что, чтобы надеть комбинезон черный СОБРовский.

ВОПРОС: В какой это день было?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Будний день было.

ВОПРОС: Когда они уехали, был понедельник или вторник?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Видеть я сам ничего не видел. Только слышал, как подъехали машины.

ВОПРОС: Где ты ходил в патруле?

ОТВЕТ: Возле казармы, вокруг автостоянки, охраняли свои машины. Около ворот 1 роты дежурили.

ВОПРОС: Во сколько это было?

ОТВЕТ: Было уже темно, все спали. Около 24, ближе к 1 ночи. Потом машины заглохли. Тишина и два выстрела.

ВОПРОС: Через какой промежуток?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Времени много не прошло, минут пять. Произошло два выстрела, два или три. Промежуток между выстрелами пару секунд.

ВОПРОС: Так два или три выстрела?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Два.

ВОПРОС: Ты в это время был в карауле?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Потом они приехали.

ВОПРОС: Машины подъехали к части. На территорию не заезжали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, не заезжали.

ВОПРОС: Они повернули на эту дорогу?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Видимо, так.

ВОПРОС: Повернули на повороте в лес?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Поворот, не доезжая немного до части, направо.

ВОПРОС: А что там в лесу?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я даже на линию препятствий не ходил.

ВОПРОС: А что там линия препятствий?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Там линия препятствий какая-то есть, они там тренировались.

ВОПРОС: Постоянно?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Они часто выезжали туда. Ну они как выезжали туда, там пройтись, она рядом находится.

ВОПРОС: А что там за полоса, ты там был хоть раз?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я туда не ходил. Туда 1 рота, они там занимались, бегали на время, сдавали.

ВОПРОС: То есть ты не разу там не был?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Мы не были там, водители вообще не были там. Туда на машинах не выезжали.

ВОПРОС: То есть было два выстрела, ты был в карауле, что было дальше?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Они приехали сразу, где-то через минут пять приехали.

ВОПРОС: Кто приехал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Все солдаты на всех машинах, этих двух машинах.

ВОПРОС: Каких машинах? БМВ и Ауди?

МЕТЕЛЬСКИЙ: БМВ и Ауди.

ВОПРОС: Сколько там человек было? Получается по числу человек 10. А стояли на стоянке машины?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, не на стоянке, сразу здесь около здания, стояла машина здесь. Эти Ауди и БМВ постоянно, там джип Исудзу еще был, они постоянно находились здесь около здания, около входа.

ВОПРОС: А водители?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Водители пошли вместе с ними.

ВОПРОС: Понятно. Значит машины они поставили возле здания, сами куда пошли?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Сразу отдыхать. Сначала они пошли кушать и пошли спать.

ВОПРОС: Кто приехал в ту ночь ты видел?

МЕТЕЛЬСКИЙ: В принципе, да.

ВОПРОС: Ты говорил, что те люди, они и здесь есть (в книжке)?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: В этой книжке?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Ну, все краповики, а там снимались все краповики на БТРе. Фамилий я их не знаю.

ВОПРОС: Водитель этот был?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, он пригонял джип.

ВОПРОС: Этот джип пригонял, это потом он рассказал про джип, да? Я так понимаю или ты джип тоже видел.

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, он мне рассказывал, что очень большой джип, и ничего не разрешали взять оттуда, короче, ничего не забирали с машины. Золото сняли, какое было, и выкинули в речку.

ВОПРОС: Ну ладно, это потом. Давай, значит кто еще был?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Павлик был, выезжал.

ВОПРОС: Фамилии по максимуму которых ты знаешь краповиков, которые могли там быть?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я так сильно никого не знал.

ВОПРОС: Ну а Балу (Балынин) был?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, он не выезжал, ну слишком толстый, не оперативный.

МЕТЕЛЬСКИЙ: Ну со знаменем тут нет. Я говорил со знаменем стоит?

ВОПРОС: Что он знамя носит по телевизору?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да там есть солдат.

ВОПРОС: Который в рекламе снимается?

ОТВЕТ: Да.

ВОПРОС: А со знаменем ты говоришь, ходит по телевизору, ты его знаешь фамилию, имя, кличку.

МЕТЕЛЬСКИЙ: Фамилию не помню честно сказать. Они не общались с солдатами. Они как бы выше себя ставили. Как краповики они бойцы такие. Это наш командир был, он не выезжал. А еще тут нету на фотографии, лейтенант Коклин уже наверное капитан.

ВОПРОС: Он был с ними?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, он выезжал.

ВОПРОС: Лейтенант Коклин в то время, а он чем командовал, взвод какой-то?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Он автомобильной ротой, нами командовал.

ВОПРОС: Вами командовал, авторотой?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Он за рулем был машины или где?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Он за рулем был (показывает на фото).

МЕТЕЛЬСКИЙ: Ну вот этот, он постоянно, он на все выезды выезжал.

ВОПРОС: А кто он, что он, какое положение занимал в роте?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Просто сверхсрочник. Сни постоянно шутили они между собой, улыбались. У них отношения между собой были хорошие. Еще Будько. Будько Юра. Их два брата. Второй там в то время не служил, он потом пришел.

ВОПРОС: То есть в 1999-м был Будько один из двух братьев?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: А второй что потом пришел?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Потом пришел.

ВОПРОС: Туда же, в спецназ?

МЕТЕЛЬСКИЙ: В СОБР. Он краповик, есть на фото.

ВОПРОС: Младший?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, младший. Потом я узнал, что кто-то из них сел, посадили за что-то. Младший вроде бы сел. Старшего я видел, они уже там не работают.

ВОПРОС: А где они работают, откуда они?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Они с Лядищ, с деревни Лошницы. Дальше там, Борисовский район. Вот тот, который стоит сбоку на БТРе, он тоже с Лошницы. У нас краповики все борисовские. Почему, говорили, набираете борисовских всех?

ВОПРОС: Фамилия Игнатович тебе не знакома? А Малик?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Я фамилии их не знал.

ВОПРОС: А еще кого-нибудь знал из тех людей, что тогда присутствовали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Здесь никого нет больше.

МЕТЕЛЬСКИЙ: Будько выезжал этот, Коклин, вот этот, Павлик, и вот этот.

ВОПРОС: То есть пять человек из той группы, которые выезжали и плюс который со знаменем ходит? А со знаменем как, он носит его, рядом идет?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Он вроде бы со шпагой.

ВОПРОС: А кто он такой?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Сверхсрочник, они все на прапорщика подписывали на 5 лет контракт.

ВОПРОС: А где он от знамени, слева или справа?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Сюда, ближе к экрану он стоит, сразу видно.

ВОПРОС: А как зовут?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Не знаю.

ВОПРОС: Вернемся назад. Они приехали, на двух машинах, разгрузились, пошли есть. Никто по двору не шастал, не смотрел, что, как?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Вышел Павлик, сказал быть внимательными и осторожными, чуть что — сообщать сразу дежурному, если что-то случится, увидите кого-нибудь или шорох подозрительный.

ВОПРОС: Это он по постам прошелся? В ту ночь Павлик лично ходил по постам? Без начкара?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Один. Он постоянно с пушкой и в городе.

ВОПРОС: Он к тебе в ту ночь подходил?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: И что сказал «Смотри боец»?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Ну он меня знал. Сказал смотреть, если что — сразу сообщать.

ВОПРОС: То есть по всем прошелся и предупредил, что усиление?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Предупредил, что усиление. Сделал усиление после приезда.

ВОПРОС: Усиление после того, как во дворе выгрузили или после того?

МЕТЕЛЬСКИЙ: На следующий день.

ВОПРОС: А в этот день просто прошелся по караулу?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Они приехали и пошли отдыхать. Ты свои часы отстоял и пошел отдыхать?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: День предшествующий, насчет ямы?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Утром на следующий день. Они взяли.

ВОПРОС: Это было на следующий день после выстрелов?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Они подняли роту, взяли ГАЗ-66 (он один). За руль сел сверчок, в кузов тоже сверчки. Солдаты пошли пешком. После приезда в кузове было много хвои и грязи. После обеда пришли солдаты, зае.аные все. Яму копали. Там камни, глина. Вообще копали большую яму.

ВОПРОС: А где яму копали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Или на линии препятствий, или где-то рядом.

ВОПРОС: То есть яму большую копали, копали полдня?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, копали полдня, вечером выехали, взяли БТР, на БТРе выехал Коклин.

ВОПРОС: Вечером, во сколько?

МЕТЕЛЬСКИЙ: После обеда, где-то в 18 часов.

ВОПРОС: Сколько человек копало яму?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Солдаты все пошли (30-40 человек), вся первая рота.

ВОПРОС: А сверчки?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Все 8 человек.

ВОПРОС: Солдаты пошли пешком, а сверчки поехали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, они куда-то выезжали дальше, потому что они не с ними были. Сверчки взяли кувалды и ломы.

ВОПРОС: Куда загрузили, в газон?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, и поехали. Потом вечером выехали опять на ГАЗоне-66 и БТРе, и по тому, как мне рассказывал мой знакомый, джип они сравняли с землей.

ВОПРОС: Просто так и сказал, что сравняли с землей?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: А какой джип был?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Большой джип, «Чероки», шикарный. Хотели взять себе магнитолу, но Павлик не разрешил. Он сказал — ничего с машины не брать.

ВОПРОС: В этот день солдаты и сверчки ездили в свое место, солдаты копать что-то, сверчки взяли ломы и кувалды и поехали, заниматься своим делом. Вернулись пообедали, поужинали. И вечером около 18 часов уехали на БТРе и ГАЗоне.




*Окончание на стр.8*

## Украіна прагне перамогі

Трэнеры нацыянальнай зборнай Украіны па футболе сумняваюцца ў боегатоўнасці лідэраў беларускай каманды Аляксандра Хацкевіча і Валянціна Бялькевіча да матча адборачнага турніру чэмпіянату свету 2002 года паміж Украінай і Беларуссю, які пройдзе ў Мінску 1 верасня. Пра гэта яны заявілі 28 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Кіеве.

Паводле словаў Леаніда Бурака, «ёсць праблемы ў лідэраў беларускай зборнай — футбалістаў кіеўскага «Дынама» Аляксандра Хацкевіча і Валянціна Бялькевіча. У апошнім туры чэмпіянату Украіны абодва гульцы ўдзелу не бралі. У Хацкевіча — траўма. Пасля яе вельмі цяжка аднавіцца. У Бялькевіча таксама сур'ёзныя праблемы — гематома задняй паверхні бядра.

Акрамя таго, заявіў Бурак, «зборная Беларусі страціла вельмі вопытнага варатара Тумiловіча» (галкіпер прапусціў мяч з-за выдалення ў матчы з Нарвегіяй. – **БелаПАН**). «Вось у гэтым плане ў іх ёсць пэўная праблема. Мы ведаем вельмі добра моцныя і слабыя якасці беларускай зборнай, і, я думаю, усе хлопцы разумеюць усю адказнасць, якая на іх ускладзеная», — сказаў трэнер.

«У такой гульні вялікае значэнне будуць адыгрываць характар і настрой, — лічыць другі трэнер украінскай зборнай Уладзімір Верамееў. — Майстэрства таксама адыгрывае сваю ролю, але тыя, што будуць лепш настроены, тыя, што будуць больш хацець выйграць, тыя футбалісты і выйдуць на поле. Я думаю, аналагічны падыход і ў нацыянальнай зборнай Беларусі». Каменціруючы вынік першага матча зборных у Кіеве (0:0), Верамееў заявіў, што не ўсе футбалісты ўкраінскай каманды «згулялі так, як належыць».

Выступіўшы на прэс-канферэнцыі прэзідэнт Федэрацыі футбола Украіны Рыгор Суркіс заявіў, што выхад украінскай зборнай у фінальную частку чэмпіянату свету з'яўляецца «выкананнем вялікай важнасці сацыяльнага заказу».

Між тым, 29 жніўня ў інтэрв'ю беларускай спартыўнай газеце «Прессбол» Аляксандр Хацкевіч заявіў, што ён гатовы да матча з Украінай «на 98 працэнтаў», а астатнія 2 працэнты ён разлічвае «дабраць у дні, што засталіся да гульні». Пры гэтым паўабаронца пацвердзіў наяўнасць траўмаў у яго і Бялькевіча.

Перад суботнім матчам зборная Беларусі з 12 ачкамі займае ў сваёй адборачнай групе другое месца, а зборная Украіны з 10 ачкамі — трэцяе.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Шарамет раскрывае таямніцы



28 жніўня тэлеаператар Грамадскага расійскага тэлебачання Дзмітрый Завадскі, які знік 7 ліпеня мінулага года ў аэрапорце «Мінск-2», адзначыў бы дзень нараджэння. 30 жніўня ў Мінск прыехаў кіраўнік аддзела спецпраектаў ГРТ, які доўгія гады працаваў з Д.Завадскім у адной звязцы, Павел Шарамет для ўручэння прэміяў імя Дзмітрыя Завадскага. Прэмію заснавалі ГРТ і Беларуская асацыяцыя журналістаў, і 30 жніўня яе атрымалі тэлеаператары ГРТ Сяргей Гельбах, НТВ – Канстанцін Марозаў, РТР – Сяргей Пушкін, Уладзімір Андронаў і Уладзімір Бабарэка. Уся «пяцёрка» доўгія гады працуе на Беларусі, і намінанты прэміі вызначаліся па крытэрыях: «У прафесійнай і чалавечай рэпутацыі няма ніякіх сумненняў», высокі прафесіяналізм, людзі, якія траплялі ў надзвычайныя сітуацыі... Пяцёра тэлеаператараў атрымалі імянныя дыпломы і грашовую прэмію, памеры якой не называліся. Павел Шарамет на сустрэчы з журналістамі ў рамках перадвыбарнага прэс-клуба БАЖ агаварыўся, што гэтая прэмія – «не імя Дзмітрыя Завадскага, гэта прэмія Дзмітрыя Завадскага». «Мы спадзяемся, што ўсё закончыцца добра, і мы знойдзем Дзіму жывога», – падкрэсліў Павел Шарамет.

Група журналістаў ГРТ на чале з Паўлам Шараметам па-ранейшаму працягвае пошукі Дзмітрыя Завадскага. Кіраўнік аддзела спецпраектаў ГРТ лічыць «адзінай больш-менш праўдападобнай версіяй» знікнення калегі так званы «чачэнскі след». «Версія, каторая была агучаная ў тым ліку і Бажэлкам (былым генеральным пракурорам Беларусі. – **Рэд.**), звязаная з «чачэнскім следам» – з удзелам беларускіх спецслужбаў у падзеях, якія адбываюцца ў Чачні. У прыватнасці, гаворка ідзе пра тое, што ёсць падазрэнні, што нехта з высокапастаўленых асобаў Беларусі займаўся пастаўкай стралковай зброі праз Турцыю і Грузію баевікам у Чачні. Калі Завадскі расказаў у інтэрв'ю журналістам, што былі затрыманыя спецназаўцы, па версіі следчых пракуратуры, гэта стала штуршком, каб яго выкрасці з мэтай выведаць падрабязнасці: ведае ён штосьці, не ведае... Гэта версія адзіная больш-менш праўдападобная: альбо помста Ігнатовіча (былы супрацоўнік спецпадраздзялення «Алмаз», які падазраецца ў выкраданні і знішчэнні людзей. – **Рэд.**) за расказ пра Чачню, альбо жаданне даведацца, ці бачыў Завадскі, ці ведаюць журналісты што-небудзь пра гэтыя аперацыі беларускіх спецслужбаў у Чачні», – заявіў Павел Шарамет.

П.Шарамет заявіў, што інтэрв'ю з Алегам Алкаевым, былым начальнікам СІЗА-1, надрукаванае ў «БДГ», – гэта трэць гутаркі, запісанай здымачнай групай ГРТ у Берліне. Аднак інтэрв'ю ў эфір гэтак і не выйшла. «У нас узніклі праблемы з паказам гэтае плёнкі. Наколькі я ведаю, гэта адбылося ў выніку асабістага ўмяшання прэзідэнта Лукашэнкі, яго зносінаў з кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі. Таму пакуль мы не можам паказаць плёнку з Алкаевым... Мы перадалі гэтую плёнку нямецкаму тэлебачанню, галандскаму тэлебачанню і яшчэ шэрагу тэлекампаніяў. Наколькі я ведаю, такія ж праблемы ўзніклі і на НТВ – там таксама чакалі матэрыялу з Алкаевым і таксама былі ўведзеныя абмежаванні на паказ гэтай плёнкі», – падкрэсліў Павел Шарамет. Ён не хаваў, што на ГРТ «існуюць сур'ёзныя праблемы па палітычных прычынах з паказам таго, што ў ходзе ўласных пошукаў знойдзена. На жаль, палітыка трымае верх над агульначалавечымі каштоўнасцямі», – сказаў Павел Шарамет.

Група ГРТ працягвае шукаць Дзмітрыя Завадскага, прычым вельмі актыўна. Павел Шарамет пацвердзіў інфармацыю кіраўніка руху «За новую Беларусь» Васіля Лявонава, даведзеную журналістам 27 жніўня. У выніку ўласнага расследавання група П.Шарамета выйшла на былога Генпракурора Алега Бажэлку, які «хаваўся апошнія паўгода» ў манастыры пад Уладзімірам. П.Шарамет меў з ім некалькі сустрэчаў, у ходзе якіх «Бажэлка дастаткова падрабязна расказаў пра тое, што яму вядома». «Бажэлка перад сваім прыездам у Мінск – ён з'явіўся ў аўторак вечарам, у сераду абяцаў правесці прэс-канферэнцыю. Але ў апошні момант ён спужаўся. Ён увогуле паводзіць сябе дужа дзіўна: ён знаходзіўся пад поўным кантролем, штодня прасіў у іх благаславення незразумела для чаго... Бажэлка, у прыватнасці, расказаў, што ў лістападзе мінулага года ў генеральнай пракуратуры была ўжо гатовая і павестка для выкліку ў якасці сведкі на допыт прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі – яны проста не паспелі яе ўручыць да таго, як Бажэлка быў звольнены», – сказаў Павел Шарамет. На думку П.Шарамета, Алег Бажэлка атрымаў «пэўныя гарантыі бяспекі і сытнага жыцця». Аднак беларускія ўлады пасля выбараў усё роўна «не даруюць яму падобных дэмаршаў», упэўнены П.Шарамет.

«Мы працягваем работу. Але палітычная гісторыя вельмі моцна ўплывае на тэму зніклых людзей, таму мы трымаем паўзу. ... Я асабіста лічу, што абнародаванне часткі фактаў будзе намнога важней пасля выбараў, чым зараз», – заявіў Павел Шарамет.

**Аддзел інфармацыі**

**НАЦМЕНШАСЦІ**

## Бастуюць лужыцкія дзеці

Сёння мала хто адразу скажа, што федэральная зямля Саксонія ў ФРГ — гэта тэрыторыя, якая гістарычна належала славянскаму племені лужычанаў. Шырока нагадаў аб гэтым абвостраны канфлікт паміж міністэрствам культуры Саксоніі і Саюзам лужыцкіх сербаў «Дамавіна» – нацыянальнай меншасці, якая захавалася на сваёй адвечнай радзіме на ўсходзе цяперашняй Германіі.

«Дамавіна» заклікала 1,5 тысячы вучняў шасці пачатковых і сярэдніх школ, а таксама лужыцкай гімназіі правесці 31 жніўня забастоўку. Канфлікт, як паведаміла газета «Берлінер цайтунг», выкліканы тым, што ў сербскай школе ў Кросвіцы саксонскія ўлады вырашылі ў гэтым навучальным годзе не адчыняць новы пяты клас.

Лужыцкія сербы жывуць на гэтай тэрыторыі з сярэдзіны першага тысячагоддзя, з часоў шырокага славянскага рассялення. Першая ўзгадка пра іхныя паселішчы датуецца 631 годам. Цюрынгскія і саксонскія пасяленцы з'явіліся ў міжрэччы Лабы і Одры (Эльбы і Одэра) прыкладна на паўтысячы гадоў пазней – у 1150 годзе. У гэты час вайну супраць палабскіх славянаў вялі дацкі кароль Вальдэмар Вялікі і баварскі герцаг Генрых Леў. Звонку войны мелі характар крыжовых паходаў — нібыта для хрысціянізацыі славянскіх язычнікаў, на справе заваяваныя землі засяляліся дацкімі і нямецкімі каланістамі. Некаторыя плямёны заходніх славянаў былі цалкам вынішчаныя, пэўная частка перасялілася на іншыя тэрыторыі, дзе з цягам часу таксама асімілявалася сярод мясцовага насельніцтва. А вось лужычане здолелі захаваць не толькі свае культурныя традыцыі, але і родную мову, якой карысталіся ў хатнім побыце.

Цяпер лужыцкія сербы кампактна пражываюць у шэрагу раёнаў дзвюх федэральных зямель – Саксонія і Брандэнбург (былое славянскае княства Бранібор). Прыкладна трэцяя частка насяляе рэгіён Шляйфэ, чвэрць – рэгіён Хайерсверд, а менш паловы – рэгіёны Баутцэн, Каменц і Нідэрдлаузіц.




У гады нацысцкай дыктатуры былі забароненыя ўсе арганізацыі лужычанаў, закрытыя іх органы друку, а ўсялякія праявы грамадскага жыцця лужыцкіх славянаў падаўляліся рэпрэсіўным апаратам.

Дзейнасць «Дамавіны» аднавілася адразу пасля паражэння гітлераўскай Германіі — 10 траўня 1945 года. Менавіта ў часы ГДР, магчыма, не без савецкага заступніцтва, лужычане здолелі ўзняць узровень сваёй гістарычнай свядомасці.

Вопыт этнічнага захавання лужычанаў варты беларускай увагі, бо ўжо некалькі стагоддзяў беларусам таксама прыходзіцца супрацьстаяць моцнаму нацыянальнаму ўціску і здрадзе сваёй знаці. Лужычане ў неспрыяльных умовах трымаюцца сваіх традыцыяў тысячагоддзе, ёсць падстава павучыцца ў іх памяці.

**Эльза фон КУРЛОФ**

# Полная стенограмма допроса свидетеля Александра Метельского

*Окончание, начало на стр.1*

ВОПРОС: Ты говорил, он перегонял джип, откуда?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Там, где они его взяли.

ВОПРОС: После того, как они вернулись, ты сразу встретился со своим другом?

ОТВЕТ: Нет, они пошли спать, только на следующий день.

ВОПРОС: После того как покопали, ты у него спросил, что он тебе рассказывал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Он рассказал, что они выехали, стояли около какого-то дома, ждали людей. Сказали — там людей заберем.

ВОПРОС: Это он про какой день рассказывал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Это когда они выехали, в тот день.

ВОПРОС: Когда выстрелы слышали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Они там ждали, эти люди приехали, людей скрутили.

ВОПРОС: Давай подробней, на чем они приехали?

МЕТЕЛЬСКИЙ: На Ауди и БМВ.

ВОПРОС: Ясно, ты не говорил — кто ездил?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Вот эти ездили я показал, только молодой Будько — его ещё не было.

ВОПРОС: Куда они выехали, ездили в Минск?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Выезжал прапорщик Мурашко.

ВОПРОС: Прапорщик Мурашко с ними был, а это кто?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Он прапорщик, долго служил в спецназе, командовал 3-й учебной ротой, ну призывники там все.

ВОПРОС: То есть он вместе с ними выезжал на мероприятия, когда ждали людей?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Имя его как?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Все называли прапорщик Мурашко.

ВОПРОС: Он и сейчас служит?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Не знаю.

ВОПРОС: Сколько ему лет?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Около сорока.

ВОПРОС: Выезжали куда, не сказал?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Выехали. Стали около дома, приехал джип.

ВОПРОС: Какой джип?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Большой красивый джип. Они вышли из машины. На улице никого не было. Наши взяли выбежали и засунули их к себе в машины. Он сел за руль джипа, завёл и поехал за машиной. Куда они, туда и он. Это было вечером, когда они его взяли, часов за 22. Сразу они взяли и сразу поехали к части. В тот же день. Они сразу всё привезли. Сначала сняли всё золото и выкинули где-то в озеро. Какое озеро, он не сказал. Когда они остановились в лесу, он подошел к Павлику и говорит, мол, можно магнитолу взять в Ауди 200, а то там плохая? Павлик сказал ничего не брать.

ВОПРОС: Это ты рассказал где?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Выехали за поворот, там как бы постройка была, типа там огородик или что. Ну они выехали к постройке.

ВОПРОС: Про следующий день, когда яму копали, он говорил?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет.

ВОПРОС: Сколько человек по его словам там было?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Двое.

ВОПРОС: И они взяли их на улице после того, как те вышли из машины?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: В городе возле дома?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: С этим человеком ты возвращался за время службы к диалогу об этих вещах?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет. Раз приехал в часть, привет как дела, об этом разговора не было. Он ничего не рассказывал.

ВОПРОС: Из бывших с кем общаешься?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Вообще ни с кем.

ВОПРОС: За всё время как ты пришёл, никто тобой не интересовался — милиция , военные?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет.

ВОПРОС: В части предлагали остаться?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да предлагали. ......... Он второй человек после командира. Самоходов в Бегомле не было.

ВОПРОС: Как охраняется Бегомль?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Они не куда не отходят. Одни стоят около ворот, а мы около машин, те, кто возле машин, обходили казарму.

ВОПРОС: Когда было усиление?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Давали автоматы.

ВОПРОС: Утром поставили усиление?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да, никого не выпускали из части. В тот день поставили ещё двоих солдат, обычно на КПП сидел из чужой части солдат.

ВОПРОС: После того, как ты говорил, люди выехали на БТРе и Газике с ломами... БТР для чего предназначался?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Или спихнуть в яму, или раздавить окончательно. Из машины забрали только аккумулятор.

ВОПРОС: Из джипа?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да. Он здоровый.

ВОПРОС: А где он?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Его кидали по всем машинам.

ВОПРОС: Больше ничего не взяли?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, аккумулятор ходил по рукам.

ВОПРОС: Он никуда не делся?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Его кидали с машины на машину, а потом он стоял в боксе. В тот вечер все сидели в комнате отдыха. Номер на БТР не помню. На следующий день сказали отмыть машины от песка.

ВОПРОС: Особые приметы у БТРа были?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Особо никаких нет. Вечером водитель не выезжал. Джип стоял где-то в лесу. Утром встали поели и пошли туда. Копали до 13.30. Яму ходили копать срочники из первой роты. Павлик пошёл с солдатами. Сначала пришли солдаты (назад), а через час вернулись сверчки.

ВОПРОС: Тебе сказал, что джип смяли, Мекиянец? Как он тебе говорил?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Приехали и ждали около входа то ли бани, то ли спортзала. Они знали, что в это время.

ВОПРОС: Они вышли из здания или из машины?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Наверное, из машины, если они взяли ключ, чтобы гнать её. Они взяли людей, и машины сразу подъехали по бокам. Он вскочил в джип и они поехали.

ВОПРОС: Машины все были целые?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Да.

ВОПРОС: Он присутствовал при давке джипа?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Нет, ему сказал сверчок. Вечером выехали в 18, вернулись в 21. Все машины в грязи, песке и елочках. Солдаты сказали, что тяжело было копать – глина, камни. Все пришли мокрые. На зарядку бегали от части до дороги. Попрыгали, поотжимались и домой.

ВОПРОС: Как они ходили на полосу?

МЕТЕЛЬСКИЙ: На полосу они ходили только днём. Перед нами был лес, что там дальше я не знаю. Был телевизор, центр, большой аквариум с рыбками. Павлик покупал всё за деньги на рынке. Павлик забрал свою жену через 2 дня. Привёз жену на БМВ и сына привёз тоже. Приставил к ним одного краповика, якобы охрана.

ВОПРОС: Сколько эта охрана была?

МЕТЕЛЬСКИЙ: Не знаю, я в ноябре уволился в нулевой партии.

*Эта стенограмма допроса поступила в редакцию по электронной почте. Отправитель называет себя Геннадием УГЛЕНИЦЕЙ (сотрудник КГБ РБ)*

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1754 Нумар падпісаны ў друк 30/08/2001 (15:00) Наклад – 10.260